*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***Францішак БАГУШЭВІЧ***




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 7 (271)

14 лютага
1996 г.

Кошт — 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА НАЗНАЧАНЫ НОВЫ МІНІСТР КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Ім стаў Аляксандр Уладзіміравіч Сасноўскі, які працаваў дагэтуль намеснікам старшыні Менгарвыканкама. Аляксандр Сасноўскі нарадзіўся ў 1949 годзе. У 1977 годзе скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у 1993 — Акадэмію кіравання пры Савеце Міністраў. З 1981 года па 1986 год працаваў намеснікам дырэктара ПТВ-147, а затым — дырэктарам Менскага ПТВ-114. Са студзеня 1991 года А.Сасноўскі — намеснік старшыні Менскага гарвыканкама па пытаннях культуры, адукацыі, моладзі і рэлігіі. Нядрэнна валодае беларускай мовай. Віншуючы Аляксандра Уладзіміравіча з пасадай, хочацца спадзявацца, што ў яго асобе беларуская культура займела свайго абаронцу ў гэты цяжкі эканамічны час.

○ ***У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ НА СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ ДЗЕЙНІЧАЕ 2016 РЭЛІГІЙНЫХ АБШЧЫН РОЗНЫХ КАНФЕСІЙ.*** *Сярод іх праваслаўная царква мае 938 прыходаў, рымска-каталіцкая — 373, грэка-каталіцкая — 11, евангельскія хрысціяне-баптысты —192, хрысціяне веры евангельскай — 311.*

○ **НАПРЫКАНЦЫ СТУДЗЕНЯ ВЫДАВЕЦТВУ «БЕЛАРУСЬ» СПОЎНІЛАСЯ 75 ГАДОЎ.** Першымі кнігамі выдавецтва былі творы Я.Купалы, Я.Коласа, К.Крапівы, М.Лынькова, Зм.Бядулі, К.Чорнага, Ц.Гартнага, а таксама шматлікія падручнікі для беларускіх школьнікаў. Віншуючы выдавецтва «Беларусь» з юбілеем, жадаем і надалей поспехаў у выдавецкай справе.

○ ***ЛЕТАСЬ У НАШАЙ КРАІНЕ*** *было выпушчана 3205 кніг агульным накладам 62,9 мільёна паасобнікаў. Пры гэтым на долю дзесяці дзяржаўных выдавецтваў прыпадае толькі 20,4 працэнта па назвах і 31,1 працэнта па накладу.*

○ **У ЧАС ГУТАРКІ З КАРЭСПАНДЭНТАМ «ЗВЯЗДЫ» СТАРШЫНЯ БНФ ЗЯНОН ПАЗЬНЯК СКАЗАЎ:** «Нацыянальная ідэя — гэта кансалідацыя народа на аснове любові да сваёй зямлі, гісторыі і культуры, да саміх сябе і ўсведамленне ў гэтым агульнасці жыццёвых інтарэсаў. Чалавек, які ўсведамляе нацыянальную ідэю, звязвае свой поспех і сваё шчасце з поспехам і шчасцем свайго народа. Нацыянальная ідэя здольна кансалідаваць усіх, незалежна ад палітычнай арыентацыі. Дарэчы, і камуністаў, і антыкамуністаў. Напрыклад, і Бразаўскас, і Ландсбергіс гавораць на адной мове. На Беларусі ж, аднак, камуністы служаць не нацыянальнай ідэі»

## «Успаміны» і сустрэчы

«Арганы Беларусі» і «Успаміны пра Міколу Равенскага» — новыя фільмы беларускіх кінематаграфістаў. Сустрэча з іх стваральнікамі — Міхасём Жданоўскім, рэжысёрам, лаўрэатам дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, і Юрыем Гарулёвым, аператарам, адбудзецца 18 лютага а 12-й гадзіне ў кінатэатры «Змена». 20 і 22 лютага а 14-й гадзіне — «Подых навальніцы».

**Д.К.**

*МАСКОЎСКІЯ КАЛЯДЫ* Стар. 3.

*ШМАТЗНАЧНАСЦЬ НАШЫХ І НЯМЕЦКІХ СЛОЎ* Стар. 7.

## *Да 700-х угодкаў герба «Пагоня»*

Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады распаўсюдзіў у сродках масавай інфармацыі зварот, у якім адзначаецца, што 700 год таму, у 1295 г., вялікі князь Віцень у старадаўняй сталіцы ВКЛ г.Навагрудку зрабіў герб «Пагоня» дзяржаўным сімвалам. У 1918 годзе «Пагоня» прызнана дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі, а 19 верасня 1991 г. — галоўным атрыбутам дзяржаўнай і нацыянальнай сімволікі Рэспублікі Беларусь па волі яе Вярхоўнага Савета. Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада заклікае ўсе прагрэсіўныя нацыянальныя сілы, грамадскія і палітычныя арганізацыі правесці ў 1996 годзе ўрачыстае святкаванне старадаўняга сімвала незалежнасці роднага краю і звяртаецца да новага Вярхоўнага Савета Беларусі з прапановай стварыць дэпутацкую камісію па разгляду ўмоў, у якіх праходзіў травеньскі рэферэндум 1995 г., і адпаведнасці сфармуляваных пытанняў рэферэндуму Канстытуцыі і заканадаўству Рэспублікі Беларусь, тым болей, як зазначаецца ў заяве, за адмену гістарычнай нацыянальнай сімволікі і ў гэтых умовах прагаласавала менш паловы ўсіх выбаршчыкаў.

**У.А.**

## Нацыянальная навуковая канферэнцыя

Як ужо згадвалася, Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны рыхтуе Нацыянальную навуковую канферэнцыю **«Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты».** Канферэнцыя, якая адбудзецца 30 сакавіка ў Менску, будзе, мяркуецца, прадстаўнічай. Калектыўнымі сябрамі Аргкамітэта ўжо сталі больш за 20 грамадскіх арганізацый і партый.

Аргкамітэт запрашае прыняць удзел у канферэнцыі. Рэгламент часу для дакладаў — да 15 хвілін, для паведамленняў — да 10 хвілін. Тэкст — да 2 старонак стандартнага машынапісу — трэба прыслаць або перадаць загадзя, да 1 сакавіка, Арганізацыйнаму камітэту: 220005, г.Менск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (0172) 33-25-11.

**А.К.**

*Год Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі*

## У Марачоўшчыне каля Косава



Фонду ўзнагародзіць дыпломамі лаўрэата Фонду імя А.Т.Касцюшкі старшыню Нацыянальнага Арганізацыйнага Камітэта па святкаванні ў Беларусі 250-х угодкаў Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі сп.Міколу Купаву (на фотаздымку пад харугвай «Тадэвуш Касцюшка»), настаўніка з Заполля сп. Аляксандра Зайку, а таксама спадара Уладзіміра Рымшу.



Дзень быў святы. Ужо ад рання людзі з Менску, з Берасця, з івацэвіцкіх і косаўскіх вёсак спяшаліся ў Марачоўшчыну, у святы куточак нашай зямлі, дзе 250 гадоў таму нарадзіўся Чалавек. Ён змагаўся за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі. Ён даў волю неграм, якія былі яму падораныя ўрадам ЗША. Ён выдаў так званы Паланецкі універсал, у якім была абвешчана воля і зямля сялянам Рэчы Паспалітай. І тысячы касінераў — беларускія і польскія сяляне і мяшчане пайшлі ў шэрагі паўстанцаў 1794 года.

Не збылася тады мара нацыянальнага героя трох народаў, ганаровага грамадзяніна Францыі пра волю і незалежнасць. Але збыліся словы мудрай палялшучкі, якая калісь прадбачыла вялікія справы Касцюшкі і выказала спадзяванне, што сыны яго па духу закончаць ягоныя справы. Гэтыя прарочыя словы зямлячкі нагадаў спадар Несцярчук (фотаздымак пад «Пагоняй»), кіраўнік Берасцейскай філіі дабрачыннага Фонду імя А.Т.Касцюшкі. Спадар Несцярчук агласіў рашэнне



На мітынгу выступілі настаўніца-пенсіянерка з Косава Вікторыя Савосціна, дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі Павел Знавец, дарадца польскага пасольства ў Беларусі Марэк Галкоўскі, старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянон Пазьняк. Іх вітала і слухала шматсоценная грамада (на агульным здымку).

Да каменя на былой сядзібе Касцюшкаў былі пакладзены вянкі і кветкі.

**Фотаздымкі Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

*Жыццё Таварыства*

# Створана Таварыства беларускай вышэйшай школы

Гродзенская Рада ТБМ склікала сход выкладчыкаў вышэйшых навучальных установаў горада — універсітэта, медыцынскага, сельскагаспадарчага інстытутаў. Сабраліся прафесары, дацэнты, старшыя выкладчыкі, якія чытаюць лекцыі па-беларуску, таксама і тыя, хто яшчэ не перайшоў на родную мову як мову выкладання, але прыхільна ставіцца да нацыянальнага адраджэння, да перабудовы адукацыі ў нашай дзяржаве на нацыянальнай аснове. Універсітэцкія фізікі, матэматыкі, біёлагі, юрысты, іх калегі з медыцынскага і сельскагаспадарчага інстытутаў падзяліліся немалым ужо вопытам выкладання на дзяржаўнай мове, вопытам падрыхтоўкі адпаведных падручнікаў і тэрміналагічных дапаможнікаў. Удзельнікі сходу аднадушна выказаліся пра тое, што рэферэндум і яго вынікі не маюць юрыдычнай сілы. Тым не менш, як было адзначана, працэсы нацыянальнага адраджэння ў вышэйшай школе не толькі затармазіліся, а і далі задні ход. Таму патрэбна гуртаванне сіл выкладчыкаў, якія шануюць спадчыну свайго народа, яго нацыянальныя каштоўнасці. Было вырашана стварыць у рамках ТБМ больш лакальнае, але на сёння неабходнае грамадскае аб'яднанне — Таварыства беларускай вышэйшай школы. Яно павінна каардынаваць перш за ўсё і ўмацоўваць справы беларускамоўнага выкладання ў ВНУ. Вядома ж, яго задача — пашыраць кола сяброў ТБМ у вышэйшай школе, спрыяць падрыхтоўцы навучальнай літаратуры на беларускай мове, весці нацыянальную асветніцкую работу сярод выкладчыкаў і студэнтаў.

Такім чынам, у горадзе стала дзейнічаць грамадская арганізацыя, непасрэдна заклапочаная тым, каб з нашай вышэйшай школы выходзілі грамадзяне свае дзяржавы, інтэлігенты, якія ўсведамляюць сябе неад'емнай часцінай бацькаўшчыны. Выбрана кіраўніцтва новага таварыства — яго старшынём стаў доктар медыцынскіх навук, прафесар медыцынскага інстытута А.А.Астроўскі. На сходзе прыняты звароты да Старшыні Вярхоўнай Рады Беларусі С.Шарэцкага і старшыні Гродзенскага аблвыканкама А.Дубко.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ, старшыня Гродзенскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# Дыягназ доктара-дэпутата

Гэта гутарка атрымалася нечакана, у перапынку паміж пасяджэннямі першай сесіі Менскага абласнога Савета. Вельмі сімпатычная маладая жанчына-дэпутат размаўляла з іншай жанчынай па праблемах аховы здароўя. І размаўляла на добрай беларускай мове! Аўтар гэтых радкоў папрасіў сказаць некалькі словаў па праблемах беларускай мовы для газеты. Марыя Аляксандраўна Бурдзейка, так завуць гэту жанчыну, аказалася ўрачом. У вёсцы Азёры Уздзенскага раёна яна працуе тэрапеўтам тамтэйшай участковай бальніцы.

— Ведаеце, я — чалавек дэмакратычных поглядаў і, акрамя клопатаў пра сваю бальніцу, ахову здароўя, маю здавён боль, які называецца станам беларускай мовы ў грамадстве, — сказала яна.

**— Вы сябра якой-небудзь партыі?**

— Не. Я — звычайная жанчына. Многія погляды і Грамады, і Народнага Фронту падзяляю. Але мне здаецца, што слова «Фронт» надта грознае. Хай бы была б у гэтага аўтарытэтнага руху іншая назва. Напрыклад, — «Беларускі народны дом». А ў прынцыпе я згодная з нацыянальнымі дэмакратамі. Дзяржава павінна быць суверэннай. Усюды павінна пераважна гучаць родная мова.

**— Што, на Ваш погляд, для гэтага трэба зрабіць?**

— Нам усім, найперш інтэлігентам-патрыётам, неабходна растлумачыць беларускаму людству, што беларусы — паўнацэнная нацыя, што мы не горшыя за іншых, маем цікавую, багатую гісторыю, годную мову, на якой пішуцца выдатныя кнігі. Што, нарэшце, калі мы не будзем сябе паважаць, нас не будуць паважаць іншыя.

**— А што канкрэтна баліць у гэтым плане?**

— Становішча мовы ў школах. Трэба, каб расійскамоўная школа была расійскамоўнай, а беларуская — беларускай. Без расійскамоўных класаў. З гэтай справай трэба неяк «завязваць», інакш згубім беларускую школу. І яшчэ — справаводства ў розных установах. Я лічу, што яно павінна на сённяшні дзень весціся па-беларуску, бо Закон аб мовах ніхто не адмяняў. Інакш мы атрымаем на самай справе хворае грамадства...

**Такі дыягназ паставіла доктар і дэпутат Марыя Аляксандраўна Будзейка.**

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Тлумачальны палітычны слоўнік*

# Палітыка — дзяржава, нацыяналізм

**ЦІ МОЖНА ЖЫЦЬ БЕЗ ПАЛІТЫКІ?**

Такое пытанне выклікалі ў мяне наступныя словы Старшыні нашай Вярхоўнай Рады Сямёна Георгіевіча Шарэцкага: «...Палітычныя метады сёння сябе вычарпалі... Трэба, і мы будзем займацца перш за ўсё пад'ёмам эканомікі і навукі» (гл. «Народную газету» ад 12.01.96). Тут нешта не так. Таму вызначым усё ж сэнс слова «палітыка». Паходзіць яно ад грэцкага «politika», гэта значыць дзяржава, або грамадскія справы. Праўда, сучаснае яго тлумачэнне рознае, супярэчлівае. Так, паводле У.Даля «политика — наука государственного управления; виды, намерения, и цели государя, немногим известные, и образ его действий, при сем, нередко скрывающий первые... Политик — не всегда честный государственный деятель, вообще скрытный и хитрый человек, умеющий наклонять дела в свою пользу...» Паводле С.Ожэгава, «политика — деятельность организации государственной власти и государственного управления, отражающая общественный строй и экономическую структуру страны, а также деятельность общественных классов, партий и других классовых организаций, общественных группировок, определяющая их интересы». Як бачым, вельмі вучонае разуменне слова «палітыка» такое: яна як дышля — куды павярнуў, туды і выйшла. Бо, з аднаго боку, гэта навука «дзяржаўнага кіравання». Аднак, з другога, — гэта ўжо ніякая не навука, а «образ действий государя, нередко скрывающий его намерения и цели». З трэцяга ж, пад палітыкай разумеецца адна брыдота: «дзяржаўная дзейнасць» — «не заўсёды чэсная» і наогул — брудная. А з чацвёртага — «сфера деятельности, связанная с отношениями между классами, нациями и другими социальными группами, ядром которой является проблема завоевания, удержания и использования власти» (БСЭ). У адпаведнасці з гэтым пунктам гледжання, які поўнасцю адпавядае камуна-бальшавіцкай ідэалогіі, з любым палітыкам трэба трымаць «вуха востра», бо ён толькі і думае, як захапіць уладу любымі (нават — ганебнымі) метадамі і ўтрымаць яе. Сапраўды, такая палітыка і была выкарыстана дзеля стварэння СССР, заліўшы яго прасторы патокамі чалавечай крыві, знішчыўшы лепшых прадстаўнікоў Разумнага, Добрага, Вечнага і давёўшы нас да сучаснага амаль што дзікунскага стану. Але сам С.Г.Шарэцкі, як член чатырох акадэмій, а тым больш — увесь беларускі народ, заслугоўваюць іншага разумення зместу слова палітыка. Яго сэнс фармулюецца так: «палітыка — гэта вызначальны напрамак характару і зместу жыццядзейнасці асобнага чалавека, калектыву, асобнай дзяржавы альбо ўсёй чалавечай супольнасці». Таму, калі слова палітыка адносіцца да асобнага чалавека, то яна будзе асабістай, а калі да дзяржавы, то — дзяржаўнай. Такое разуменне слова «палітыка» адпавядае таму яго сэнсу, які ўсталяваўся ў жыццёвых адносінах. У адпаведнасці з гэтым без дзяржаўнай палітыкі, скіраванай на штосьці канкрэтнае, станоўчае (а не на выпадковахаатычнае), немагчыма і канкрэтная, станоўчая жыццядзейнасць грамадства. А без станоўча выразнай, разумнадзейснай асабістай палітыкі кіраўніка такога рангу, як Старшыня Вярхоўнай Рады, немагчыма мецъ і скіраваную на агульны ўздым грамадства дзяржаўную палітыку. Канешне пакуль дзейнічае і такая «палітыка», якая дае магчымасць прарывацца некаторым да самай высокай дзяржаўнай улады (уключаючы і Вярхоўны Савет), прымяняючы метад бессаромнаавантурнага папулізму абяцання даверлівым людзям усяго, што яны пажадаюць, «палітыка» інтрыг, склок, безупынных абвінавачванняў апанентаў без прадастаўлення права на публічную абарону. Расправы з іншадумствам — абы ўтрымаць уладу! У еўрапейскай гісторыі яскравым прыкладам падобнай «палітыкі»... з'яўляецца прыход (дакладней — прарыў) Адольфа Гітлера да самай высокай улады ў Германіі. Ён потым, карыстаючыся неабмежаванымі канцлерскімі магчымасцямі і авантурыстычнымі прыёмамі, змог хутка знішчыць ці поўнасцю паралізаваць у «фатэрландзе» усё разумова-духоўнае і распаліць у большасці нямецкай нацыі самае інстынктыўна-горшае, агрэсіўна-знішчальнае ў адносінах да «ніжэйшых» народаў. А чым скончылася? Крахам і горам народным. Таму такую «палітыку» можна пісаць, згадваць, толькі ўжываючы двукоссі.

Прывядзенне разумення слова «палітыка» да зместу, які адпавядае яго сучаснаму сэнсу, дае падставы выказаць наступныя абагульняючыя думкі.

Па-першае, усё, выказанае С.Г.Шарэцкім у час яго выбараў на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета і потым пасля іх, з'яўляецца зместам сфармуляванай ім дзяржаўнай палітыкі Беларусі на перспектыву і яго асабістых поглядаў на яе рэалізацыю.

Па-другое, палітычныя метады ніколі «сябе не вычарпаюць». Бо палітыка як прыняты напрамак і змест жыццядзейнасці дзяржавы вызначае сутнасць планаванага характару эканомікі і культуры ў шырокім разуменні гэтага слова. Палітыкай КП(б) і КПСС вызначаўся не толькі характар эканомікі СССР, але і змест жыцця краіны, «где так вольно дышит человек». І зараз эканоміка любой самастойнай краіны вызначаецца яе ўнутрыдзяржаўнай палітыкай. Значыць, палітыка знікне толькі са знікненнем чалавецтва. І па-трэцяе. Агульная палітыка любой развітай дзяржавы грунтуецца на нацыянальнай ідэі. Асноўныя контуры Беларускай ідэі вызначаны, напрыклад, у «Народнай газеце» ад 16 верасня 1994 года (артыкул «Беларуская Ідэя»). Такая Ідэя вызначае зыходныя прынцыпы духоўнай і матэрыяльнай канцэпцыі жыццядзейнасці і яднання нацыі як акрэсленай самастойнай часцінкі агульначалавечай супольнасці. У праграмных выказваннях С.Г.Шарэцкага такой аб'ядноўваючай ідэі, на жаль, няма. Мяркуем усё ж, будзе. Бо ёсць спадзяванне, што Старшыня Вярхоўнага Савета як рэаліст зыходзіць з таго, што ў нас ёсць свая суверэнная Беларуская дзяржава, аб станаўленні якой марылі лепшыя сыны беларускага народа. І што гэтая самастойнасць павінна аберагацца як зрэнка вока. Бо без дзяржаўнай суверэннасці проста немагчыма самастойнае развіццё, самастойнае ўваходжанне ў агульначалавечую супольнасць народаў. У выніку беларускі народ у скрытай форме стане практычна калоніяй іншай нацыі, якая падпарадкуе ўсё беларускае сваім інтарэсам.

Адчуваецца таксама поўная запалоханасць С.Г.Шарэцкага нейкімі, як ён кажа, «бацыламі нацыяналізму». Але гэта ж поўнасцю сугучна безупынным запалохванням быццам бы існуючай пагрозы ў нашым грамадстве наступу нацыяналізму бальшавіцкімі прапагандыстамі. У выніку ў свядомасць народа ўсяляк укаранялася варожасць да ўсяго нацыянальнага, як чагосьці проста ганебнага, непрыстойнага. А між іншым, нацыяналізм — гэта здаровае, ахоўнае пачуццё кожнага самастойнага народа, скіраванае на сваю самапавагу, на зберажэнне свайго гонару і годнасці, на імкненне прыстойна (ва ўсіх агульначалавечых адносінах) выглядаць на фоне іншых народаў. Таму без нацыяналізму ў агульнапрынятым сэнсе гэтага слова немагчыма павага да іншых нацый і народаў. Бо чалавек, які не мае ўнутранай духоўнай самапавагі, не можа паважаць правы і годнасць другога чалавека. Без здаровага нацыяналізму нацыя проста не можа існаваць. Гэтае паняцце зусім не эквівалент сэнсу слова «шавінізм» — крайне хваравітага і агрэсіўнага ў адносінах да другіх нацый і народаў пачуцця. З душы беларускага народа на працягу стагоддзяў ваеннымі захопніцкімі ботамі з Захаду і Усходу рашуча выбівалася нават паняцце беларускай нацыі. Бальшавікі за час свайго савецкага панавання давялі гэта паняцце да стану смяротэльна-варожага. Носьбітаў нацыянальнай свядомасці фізічна знішчалі. Сучасныя імперцы выкарыстоўваюць гэтае паняцце для таго, каб скіраваць просты народ супраць сваіх апанентаў (БНФ і інш.). І дамагліся тут вялікіх поспехаў якраз не на карысць нашаму шматвякова прыгнечанаму беларускаму народу. Таму адной з галоўнейшых задач нашага Вярхоўнага кіраўніцтва з'яўляецца не знішчэнне зачаткаў ахоўнага, карыснага беларускага нацыяналізму, а садзейнічанне яго станоўчаму ўздыму. Я, напрыклад, — нацыяналіст. І ганаруся гэтым. Таму што такое пачуццё дае мне магчымасць служыць беларускаму народу і паважаць правы іншых нацый на станоўчую дзейнасць.

Нарэшце здзіўляе выказванне і намер С.Г.Шарэцкага весці сесіі Вярхоўнага Савета на беларускай мове толькі «калі будзем прымаць законы па культуры». Гэта значыць, практычна заўжды па-руску. Дадатковае тлумачэнне «большасць залы... размаўляе на рускай мове» («Звязда» ад 19.01.1996 г.) нічога не мяняе. Бо «зала» глядзіць у рот кіраўніку. Але ж гэта непавага да роднай мовы, афіцыйнае прызнанне яе другаснасці. Як жа тады яе ўкараняць у школах? Аб якой жа нацыянальнай самапавазе беларусаў можна весці размову? Яна становіцца проста непатрэбнай зусім, акрамя песенных забаў для розных гасцей з «братэрскай» Расіі. Адпаведна з гэтым узнікаюць і такія пытанні:

— Як сумясціць імкненне (пакуль што на словах) служыць беларускаму народу і адраджэнню беларускай нацыі і адначасова спрыяць разгулу беларусафобіі?

— Як можна адрадзіць павагу да беларускай мовы (магчымасці якой ва ўсіх адносінах ні ў якім разе не горшыя, а ў чымсьці і лепшыя) ў школе, калі ўвесь урад падкрэслена не карыстаецца беларускай мовай, калі людзі, якім народ даверыў свой лёс, не хочуць (а магчыма, і не здольны) валодаць ёю?

— Як можна хоць бы змякчыць выражаную беларусафобію тых рускіх (а іх ужо з дзецьмі і ўнукамі каля трэці насельніцтва рэспублікі), якія галасавалі за прэзідэнцкія прапановы, з якіх вынікае абавязковае знікненне беларускай нацыі і адпаведна дзяржавы?

— Як суаднесці заклікі ўсіх свядомых людзей заносіць у «чырвоную кнігу» кожную раслінку, кожную маленькую казюрку для іх зберажэння, як Боскіх стварэнняў, з існаваннем іх...

— Як суаднесці заклікі ўсіх свядомых людзей заносіць у «чырвоную кнігу» кожную расліну, кожную маленькую казюрку для іх зберажэння, як Боскіх стварэнняў, з ісціяй аб тым, што толькі па прызнанні тых, хто сам сябе лічыць беларусам, беларуская нацыя пастаўлена на мяжу поўнага знішчэння (Так! Я не памыліўся, менавіта, знішчэння іншымі!) Мо беларусы не Боскае стварэнне? Мо нацыі створаны Богам выпадкова ад нечага рабіць на ўцеху камусьці? А мо яны ўсё-такі створаны, каб праз нацыянальныя рознасці (што — ісціна, якую адвяргалі і адвяргаюць камуна-бальшавікі) чалавецтва самаўдасканальвалася?

— Не варта браць на сваю душу велізарны грэх за такія адносіны да беларускай нацыі. Бог калі-небудзь за гэта пакарае. Вось жа расійскі народ пачаў расплачвацца за тое, што яго продкі знішчылі шмат народаў у імя «величия, процветания и могущества России»? Ягор Гайдар лічыць, што тамашнія сучасныя падзеі — «это только прелюдия к новым потрясениям в России» («Известия», 26.12.95). Таму што гэта краіна безупыннымі захопамі чужога «аж до самых до окраин» кінула сябе «в черную бездну исторической трагедии» («Известия», 31.10.95). У выніку, нягледзячы на незлічонасць адабраных у другіх багаццяў, «всё русское печально» (там жа). Не ўратуе і ідэалогія нацыянал-камунізму «бросить вызов пошлой стихии, ....овладеть историей, перехватить ее у Запада, развернуть в «русскую сторону», туда, где мерещится «русское будущее», «русское солнце», «русская несказанная мечта» («Советская Россия», 21.09.1995 г.). Таму што гэта будзе зноў насілле над Гісторыяй як заканамернымі працэсамі развіцця грамадства. Доказам таму з'яўляецца каўказская трагедыя Расіі, дзе яна даўным-даўно завязала крывавыя нацыянальныя вузлы ў імя «русского солнца», «русской мечты», «русского будущего», гэта значыць толькі «русского, русского» і яшчэ раз хваравіта «русского». Менавіта таму маленькая Чачня ўжо больш года здолела мужна абараняцца ад «великой и непобедимой».

Не варта ўцягваць зноў у імперскую крывавую каламуць беларускі народ.

**Аляксей САЛАМОНАЎ, доктар тэхнічных навук, прафесар.**

**ВУЧЫМСЯ**

**Практычная стылістыка**

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# З гісторыі красамоўства на Беларусі

## Княжая згода

*Рассуньцеся, часу перагародкі:*
*Вядуць, як суседзі праз вокны, размову*
*Учора і Заўтра, патомкі і продкі...*

**Пятрусь Макаль.**

Рыжскі архіў захаваў нам пісьмовыя сведчанні аб міждзяржаўных, найперш гандлёвых, стасунках полацкіх, віцебскіх і смаленскіх земляў з Рыгай і Готландам. Найперш гэта аналізаваная ўжо намі Дагаворная грамата 1229 года. На яе падставе пазней напісаны шэраг Пацвярджальных грамат, якія прыкладаліся да тэксту Дагаворнай. У такім выпадку абодва з гэтых дакументаў мелі аднолькавую княжую пячатку. Згаданая акалічнасць тлумачыць наяўнасць некалькіх спісаў Дагаворнай пры трох Пацвярджальных граматах, якія, акрамя гістарычнай, маюць моўна-культурную значнасць, несучы выразныя стылёвыя адзнакі інфармацыйна-даведачных дакументаў ды індывідуальныя моўныя асаблівасці. Створаны яны ў розны час на Смаленшчыне. Гэта Пацвярджальныя граматы князёў Фёдара Расціслававіча 1284 года, Аляксандра Глебавіча (каля 1300 г.) і Івана Аляксандравіча (першая палова XIV ст.). Найбольш кампазіцыйна ўпарадкаваная, змястоўная і лаканічная, дасканалая паводле юрыдычных стандартаў і працэдурных асаблівасцяў — Грамата Фёдара Расціслававіча, напісаная ў той жа год, што і яго ж рашэнне па судовай справе аб звоне, пра што была наша папярэдняя размова. Паводле традыцыі старажытнай дыпламатыі пачынаецца грамата з вітання (салютацыі):

***«Поклонъ отъ князя от Федора къ пискупу и къ мастеру и къ ратманомъ».***

Блізкія па стылістыцы да цытаванай (аднак больш падрабязная ў тытуляцыі і абагульненая ў вылучэнні асоб паслання) салютацыя наступніка князя: ***«Поклонъ от князя смоленьского от Олександра от Глѣбовича к ратманомъ крижьскимъ і ко всѣмъ горожаномъ».***

Пачатак Пацвярджальнай граматы князя Івана Аляксандравіча афармлены як канстатацыя. Павага да ўладных асоб перадаецца словамі ***братъ і старѣишиі братъ***, што характэрна для культурнай традыцыі беларусаў, адлюстравана ў фальклоры і мастацкай літаратуры. Стыль княскага выказвання даволі складаны і мудрагелісты праз шматлікі паўтор слоў ***докончать*** [заключыць дамову] і ***докончанье*** [дамова] — пры ўпамінанні сваіх папярэднікаў, палітыку якіх князь працягвае, і сучаснікаў, з якімі ён меў афіцыйныя адносіны: ***«Се язъ князь великии смоленьскыи Иванъ Олександровичь, унукъ Глѣбовъ, докончалъ есмь с братомь своимь с мѣстерѣмь с ризьскимь и съ пискупомь и с рыдѣли*** [рыцарамі] ***и с ратманы и со всѣми рижаны, што подъ его рукою; докончалъ есмь по дѣда своего докончанью и по старымъ грамотамъ; докончалъ есмь по тому докончанью, како то братъ мои старѣишиі Кедименъ*** [Гедымін] ***докончалъ и его дѣти Глѣбъ и Алкердъ».***

Названы вялікія князі Вялікага Княства Літоўскага — Гедымін і ягоны сын Альгерд (ад яго ў 1350-я гг. Смаленскае княства было ў палітычнай залежнасці). Гэтым фактам пацвярджаецца аўтарытэт вялікіх князёў. Як зазначае І.П.Хаўратовіч, «Альгерд быў не толькі выдатным палкаводцам, але і мудрым дзяржаўным дзеячам, меў выключныя дыпламатычныя здольнасці». Не будзе перабольшаннем сказаць пра яго як майстра дыпламатычнага красамоўства.

Наступная кампазіцыйная частка Пацвярджальных грамат — найбольш важная, зместава тоесная, па стылі — афіцыйная, аднак фармуецца рознымі моўнымі сродкамі, мае розную ступень канкрэтызацыі і абагульнення. Грамата 1284 года абвяшчае вольны гандаль і сведчыць дыпламатычную спрактыкаванасць уладных асоб: ***«Што будеть намъ речь*** [справа] ***съ пискупомь или съ мастеромь, то ведаемъ ся мы сами. А вашому гостеви*** [вашым купцам] ***сѣмо*** [сюды] ***буди путь чисть. А нашому гостеви буди къ вамъ путь чисть. А рубѣжа не дѣяти ни намъ в сѣбе въ Смоленьске, ни вамъ в себе в Ризѣ и на Гоцьскомь березѣ купьцомъ».***

Нагода ўзнікнення граматы князя Аляксандра Глебавіча раскрываецца ў Суздальскім летапісе, дзе распавядаецца, як у 1297 годзе ў адсутнасць Фёдара Расціслававіча яго пляменнік «взя лестью княжение смоленское». Таму ў грамаце адчуваецца выразны элемент супастаўлення пры дыпламатычным выкарыстанні аўтарытэтаў княжага бацькі і скінутага стрыя. Стыль выкладу больш вольны, набліжаны да літаратурна-размоўнага. Прыязнае стаўленне да суседзяў падкрэсліваецца словам эмацыйнага зместу — **любоў**. Паведамленне вядзецца ад першай асобы з выкарыстаннем іншых асабовых канструкцый — гранічна сціслае, абагульненае, дынамічнае і выразнае: ***«Како есте были въ любви съ отцемь моимь Глѣбомь і с моимь стрыемь*** [дзядзькам] ***Федором, тако будете і со мною въ любви. А язъ*** [я] ***тоѣ же любви хочю с вами. Гость*** [купцоў] ***ко мнѣ пущаите, а путь имъ чисть. А мои мужи к вамъ ѣдуть, а путь имь чисто».***

Больш афіцыйна, праз неасабовыя інфінітыўныя формы, канкрэтна выказаны асновы ўзаемадачыненняў грамадзян дамоўных земляў — ***смолянинъ и немчинъ*** — названы адказныя асобы ў грамаце Івана Аляксандравіча: ***«Ездити немцемь в домъ Святѣи Богородице и ко мнѣ. А блюсти какъ и своего смолнянина. А моимъ ездити в Ригу. А мѣстерю и ратманомъ блюсти моего смолнянина какъ своего немчина».***

*(Заканчэнне будзе.)*

**Культура мовы**

# Небяспечны «вірус»

Жывучы ў глыбінцы, не адчуваеш асаблівай трывогі за стан роднае мовы, бо «трасянка» пачынаецца дзесьці з узроўню калгаснай канторы, сама ж вёска карыстаецца сваім спрадвечным дыялектам.

Трывога ўзбуджаецца тады, калі паслухаеш Беларускае радыё або паглядзіш перадачы БТ. На жаль, там, дзе павінна б гучаць узорная мова, назіраецца, на мой погляд, нешта больш небяспечнае, чым неўнармаваная трасянка. Бо апошнім часам з вуснаў нашых дыктараў і журналістаў фактычна штодзень ліецца гаворка, у якой ужо «ўнармаваны» абсалютна неўласцівыя беларускай мове граматычныя і лексічныя нормы і формы. Найбольш тыповыя з іх — няправільнае ўжыванне канчаткаў меснага склону ў назоўніках (пра прыметнікі я ўжо маўчу — тут хвароба, пэўна, невылечная) множнага ліку: «па чацвяргам», «па Брэсцкай і Гродзенскай абласцям», «па існуючым нормам» і г.д.

Гэтак жа «ўнармавана» ставіцца націск на першым складзе (на прыстаўцы) у словах «прыняты», «прызваны», «прыбыў», «развіты», «названы» і інш. Нават у літаратурных перадачах разпораз гучыць «Пеціна» («Сашына», «Поліна»; вось-вось будзе «дзедзіна») шапка». Можна яшчэ назваць некалькі падобных з'яў. На жаль, яны не заўсёды сведчаць толькі пра неадукаванасць рэпарцёраў ці каментатараў, бо вельмі часта, сістэматычна «б'юць па вушах» з вуснаў дыктараў, якія толькі агучваюць афіцыйныя тэксты.

Дастаткова прагледзець інфармацыі БелТА, пастановы ды паведамленні ў газетах, у тым ліку ў паважанай «Звяздзе», каб заўважыць, што моўны «вірус» актыўна псуе беларускія канчаткі слоў (націскі тут, дзякаваць Богу, не ставяцца), што да меснага склону — то гэта ўжо ледзь не эпідэмія.

Вядома ж, нічога добрага няма ў тым, што і рэкламныя «сметнікі» завалены «аблучальнікамі», «катушкамі», «прарывацелямі» і да т.п. (мо, газетам і ТБ забаронена рэдагаваць мову аб'яў?), але лепш хай вы пабачыце на свае вочы аб'яву: «Па аўторніках на гарадскіх ярмарках прадаюцца канфеты «Мішавы сладасці», чым пачуеце на свае вушы: «Па аўторкам вы можаце праехаць па гарадскім кірмашам, каб набыць цукеркі, названыя «Мішыны ласункі», бо тут ужо псуецца не паверхня, а канструкцыя моўнага будынку.

Усё ж трэба дамагацца, каб у нашай дзяржаве быў створаны нейкі орган — хай не цэнтр моўнай паліцыі, то хаця нейкае Бюро моўнага нагляду, хаця б у Менску, у тым жа БелТА, на ТБ і радыё, пры цэнтральных газетах. Хай бы гэты орган выкрываў і штрафаваў парушальнікаў чысціні моўнага асяроддзя, як зараз Дзяржкампрырода вылоўлівае і штрафуе браканьераў ды забруджвальнікаў прыроднага асяроддзя. Для карэктараў, рэдактараў, дыктараў ды журналістаў належала б пры гэтым вызначыць асобную сістэму пакаранняў і заахвочванняў. Людзям жа з высокае палітыкі можна даць ільготы — аж да поўнага вызвалення ад кантролю — хай «кто как хаціт, так і гаварыт», а народ бы слухаў ды параўноўваў.

Тым жа, чыя справа — мова, акрамя слоўнікаў, у дапамогу варта б выдаць хоць маленькі каляндарык-памятку тыпу «Пецевы (Сашавы) памылкі. Так гаварыць нельга».

**А.БУБАЛА.**
г.Верхнядзвінск.

# Выдаткі перакладу

Расійскай газетай «Неделя» быў праведзены, а затым апісаны паўжартоўны, паўсур'ёзны эксперымент.

Да ўдзелу ў эксперыменце былі прыцягнутыя прафесійныя перакладчыкі, якія, цудоўна ведаючы дзве замежныя мовы, павінны былі прыняць ад свайго калегаў тэкст і, пераклаўшы на іншую мову, перадаць наступнаму. За пачатковы быў узяты ўрывак з твору М.В.Гогаля «Аповесць пра тое, як пасварыліся Іван Іванавіч з Іванам Нічыпаравічам». Фраза, якой пісьменнік ахарактарызаваў персанаж аповесці Агаф'ю Федасееўну: **«Она сплетничала и ела вареные бураки по утрам и отлично хорошо ругалась — и при всех этих разнообразных занятиях лицо ее ни на минуту не изменяло своего выражения, что обыкновенно могут показывать одни только женщины».**

Перакладчыкі атрымалі тэкст, распачалі працу.

Калі ў англійскім варыянце мала што змянілася, дык ужо ў нямецкім стрыманае слова *«сплетничала»* ператварылася ў выразнае *«плявузгала»*, а твар — ён застаўся *«зусім без выразу, так, як гэта ўмее кожная жанчына»*.

Наступным звяном у гэтым ланцугу апынулася японская мова. Уласцівая ёй вытанчанасць змусіла спецыяліста замяніць эмацыянальнае *«плявузгала»* больш нейтральным *«балбатала»*, а энергічнае *«лаялася»* мяккім *«злаславіла»*.

У арабскай мове гогалеўскі персанаж ужо не проста *«балбатаў»*, але *«балбатаў языком»*, і не проста *«злаславіў»*, а пачаў, канешне, *«выяргаць страшэнныя праклёны»*.

Француз, які прыняў эстафету, завяршыў першы этап лінгвістычнага эксперымента так: *«Яна мела звычку часаць языком, калі ела бурачны булён; з яе рота вылятаў паток адборных слоўцаў, і ўсё гэта без найменшага выразу на твары. Так робяць усе жанчыны»*.

Фраза прайшла праз інданэзійскую мову, у якой асабістыя займеннікі *«ён»* і *«яна»* перадаюцца адным і тым жа словам, затым праз галандскую і турэцкую і трансфармавалася так: *«У той час, як жанчына, паядаючы вадкае бурачнае варыва, адпускала лаянкі, мужчына займаўся балбатнёй. Ён рабіў гэта, не выказваючы сваіх пачуццяў, як прынята ў жанчын»*.

На іспанскай нічога не змянілася, хіба што замест слова *«адпускала»* ўжылі слова *«выкідвала»*. З іспанскай на мову йаруба перакладаў жыхар Судана: ён паставіўся да справы творча, перарабіўшы канкрэтнае *«варыва з бурака»* на агульнае *«варыва з пладоў зямлі»*, а агульнае *«займаўся балбатнёй»* на канкрэтнае *«хваліўся сваімі ўяўнымі подзвігамі»*.

Наступны перакладчык, які валодаў мовай йаруба, вярнуў тэкст да англійскай мовы, дадаўшы свае лексічныя папраўкі. Да *«пладоў зямлі»* ён зрабіў удакладненне — *«садавіна»*, *«выкідвала лаянкі»* скарэктаваў як *«выкідвала нядобрыя жарты»*, выраз *«хваліўся сваімі ўяўнымі подзвігамі»* перадаў англійскай ідыёмай *«біў у літаўры»*.

Новае прачытанне гогалеўскага ўрыўка было ў далейшым перакладзена з англійскай на мову афрыканскага плямені бамбара, з яе зноў на французскую, дзе *«жарты»* ператварыліся ў *«рэчы»*, і пасля гэтага на італьянскую: *«Яна піла кампот і выкідвала з дому непатрэбныя рэчы, а ён біў у тамтам, выказваючы амаль жаночае захапленне»*.

Прычыны такой трансфармацыі відавочныя. *«Вадкае варыва з садавіны»*, зразумела, *«кампот»*! *«Біў у літаўры»* зусім не абавязкова разумець толькі ў пераносным сэнсе. А дзе *«літаўры»*, там і *«тамтам»*!

Развіццё новага накірунку думак адбывалася абсалютна лагічна. На чэшскай *«непатрэбныя рэчы»* былі перакладзеныя прасцей — *«старызна»*, пад уплывам тамтамаў *«дом»* зменшыўся да *«хаціны»*, а *«жаночае захапленне»* замяніла кароткае і вычарпальнае *«захоплена»*.

Нарвежац рашуча выправіў чэшскі варыянт: не *«захоплена»*, а *«радасна»*.

Швед прыўнёс стылёвую зграбнасць дзеепрыслоўным зваротам: *«Выпіўшы кампот, яна...»* і г.д.

І вось настала заключная фаза эксперымента — вяртанне ўрыўка да мовы арыгінала. Зараз, пасля добрасумленных намаганняў двух дзясяткаў перакладчыкаў, пасля прахаджэння праз традыцыі, законы, характар і асаблівасці розных моў, гогалеўская фраза трансфармавалася ў радкі: *«Выпив компот, она выбросила из хижины старьё, а он радостно забил в тамтам»*.

**(З кнігі «Антология мирового анекдота»).**

*Шаноўныя чытачы! Напэўна, памылкі перакладчыкаў развеселілі вас. Але ці так проста на самай справе дакладна перадаць сэнс фразы на іншай мове? Паспрабуйце самі перакласці на беларускую мову той урывак з Гогалеўскага твора, які перакладалі ўдзельнікі вышэйапісанага эксперымента. Дасылайце нам свае варыянты перакладу — а мы на старонках газеты пастараемся даць ім кампетэнтную ацэнку і вызначыць найлепшы варыянт.*

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЛО́ШЧА** (вялікая незабудаваная тэрыторыя ў горадзе або вёсцы, звычайна прызначаная для якой-н. мэты) *З вышыні бачны вуліцы, плошчы, запоўненыя машынамі і людскімі патокамі* (Гамолка), **ПЛЯЦ** *На пясчаным пляцы перад будынкам вакзала гамана і крык* (Навуменка), **МАЙДА́Н** *Позна ўвечары на майдане, дзе збіраліся на сходы і гульні, ясна гарэлі вогнішчы* (Самуйлёнак).

**ПЛЫНЬ** (рух вады ў рацэ, а таксама вада, якая цячэ) *Да асушкі балот плынь у гэтай рачулцы была такая павольная, што яе нават цяжка было прыкмеціць* (Краўчанка), **ЦЯЧЭ́ННЕ** *Проці цячэння вады зможа толькі жывое паплыць* (Багдановіч), **ЦЁК** *Урэшце, зусім ужо зморaная, Гэлька неяк знайшла сілы адплыць ад віру, і яна панеслася хвалямі па цёку вады...* (Чарот), **ВАДА́** *Пачуўся пляск, узняўся цэлы сноп пырскаў, і слупок, перакруціўшыся раз-другі, спакойна паплыў за вадою* (Колас). *[Максім:] Бацькава чайка — старая: смалы і часу на канапачанне спатрэбіцца больш, чым уся яна варта, ну, а тваю мы на зваротным шляху ў Мінск падкінем да цябе на машыне, каб ты не гробся, як дурань, супраць вады* (Брыль).

**Плынь.** Англ. адпаведнікамі з'яўляюцца тры словы: **current, stream, flow,** дзе першае было пазычана з французскай мовы, а апошняе мае той жа індаеўрапейскі корань, што і беларускае *плынь*.

**ПЛЫТ** (бярвенне, звязанае ў адзін або некалькі радоў для сплаву па вадзе) *Дзве лодкі і два звязаныя з старога бярвення плыты, поўныя ўзброеных людзей, калыхаліся на рачной плыні* (Хадкевіч). *Плывуць плыты на плыні плыткай* (Барадулін), **ГАНО́К** *Нясе нас цячэннем вясенняй ракі За Віцебск, за Полацк, няма як спыніцца, Так до́бра ідуць у разводдзе ганкі* (Зарыцкі). *Па-над рэчкаю смех, Па-над рэчкаю гоман. Гэта вяжуць сасну У ганкі плытагоны* (Астрэйка).

**ПЛЫТАГО́Н** (рабочы, які займаецца сплавам плытоў, лесу) *Міхась сядзеў па-ранейшаму ў канцы плыта, дзе завіхаліся ля доўгага вясла два плытагоны* (Савіцкі). *Я быў сапраўдны плытагон, Зганяў плыты на брук* (Хадыка), **ПЛЫ́ТНІК** *З шырокіх памостаў, якія складаліся з процьмы плытоў, разносіліся над рэчкаю рэзвыя выгукі і смех плытнікаў* (Гартны). *Ніхто не падумаў, што плытнікі, спыніўшы плыты, вылезлі на бераг начаваць і расклалі агонь* (Пестрак), **СПЛАЎШЧЫК** *Мужчыны хадзілі сплаўшчыкамі на Прыпяць. Усю вясну, круглае лета, цэлую восень ганялі купецкія плыты* (Каваль). *У злубянелых шорхлых плашчыках па берагах нямой ракі стаялі бронзавыя сплаўшчыкі з баграмі, як вартаўнікі* (Макарэвіч).

**Плытагон.** Англ. **rafter, raftsman,** як і беларускае *плытагон, плытнік,* утвораныя ад аднаго і таго ж англійскага кораня **raft** («плыт»), але суфіксальны назоўнік *rafter* стаў рэдка ўжывацца ў сучаснай англійскай мове.

